# БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКААПСАЮЗУ

2 чэрвеня 1932 г. № 9

Рэдакцыя і кантора Менск, Савецкая 57. Тэл. 6—50.

Умовы падпіскі: На год—12 руб. На 6 м.— 6 руб.




## Рэарганізацыя сыстэмы аптовага гандлю спажкаапэрацыі БССР



### Пастанова Прэзыдыуму Праўленьня Белкаапсаюзу

па дакладу камісіі Прэзыдыуму аб рэарганізацыі аптовага гандлю ад 5-га мая 1932 г.



**I. Улічваючы:**

а) што аптовыя аб'яднаньні БКС асноўную сваю увагу удзеляюць задачы арганізацыі таваразвароту, пераважна ў межах цэнтралізаванага снабжэньня і надзвычайна слаба разгортваюць па-заплянавыя закупкі, слаба кіруюць работай сыстэмы па мабілізацыі дадатковых таварных і харчовых рэсурсаў;

б) што ў дзейнасьці аптовых аб'яднаньняў яшчэ мае мейсца „распределенчество" пры арганізацыі снабжэньня;

в) нерацыянальнасьць шляхоў таварапрасоўваньня;

г) арганізацыя, згодна пастановы Саюзных дырэктыўных органаў аптовых баз прымысловасьці па шэрагу тавараў;

д) рашэньне аб зьняцьці з плянаваньня шэрагу тавараў,—лічыць неабходным правесьці карэнную рэарганізацыю сыстэмы аптовага гандлю па лініі спажывецкай сыстэмы.

**II. У аснову рэарганізацыі пакласьці наступныя прынцыпы:**

а) рэарганізаваць увесь цэнтральны гандлёвы і снабжэнчаскі апарат у напрамку максымальнага прыстасаваньня яго да мабілізацыі таварных і прадуктовых рэсурсаў (па-заплянавыя загатоўкі, закупкі), ліквідуючы канчаткова тэндэнцыю „распределенческого" парадку.

б) Скарачэньне шляхаў тавара-прасоўваньня, рэарганізацыя у часткі райсаюзаў іх аптовых баз і арганізацыя завозу ў раён з такім разьлікам, каб значная часткі сельпо была непасрэдна зьвязана з міжраённай базай і мела-бы магчымасьць выбару тавараў у значнай частцы асартымэнту непасрэдна на базе.

в) Рэарганізацыя работы Аб'яднаньня і складаў, з улікам неабходнасьці набліжэньня базы да раёну і перадачы аптовага гандлю па шэрагу прадметаў у рукі прамысловасьці.

г) Ставячы перад сабою, як асноўную задачу, шырокае разгортваньне савецкага гандлю, так арганізаваць гандаль, каб тавараснабжэньне было падпарадкавана важнейшым гаспадарча-палітычным задачам.

д) Наладжваньне штодзёнага сыстэматычнага нагляду за становішчам рабочага снабжэньня на вядучых вучастках народнай гаспадаркі.

е) Наладжваньне аперацыйнай баявой работы арганізацыі раздробнага гандлю (сетка, базар, культурны гандаль, рацыяналізацыя, інвэнтар, кадры і г. д.).

**III. Выходзячы з гэтых установак неабходна:**

1) Рэарганізаваць прам і харч аб'яднаньні ў адно аб'яднаньне па гандлю прамысловымі і прадуктовымі таварамі, паставіўшы асноўнай задачай гэтага гандлёвага аб'яднаньня—арганізацыю шырокай закупачнай работы звыш цэнтралізаванага пляну.

Для забясьпечаньня гэтага, лічыць неабходным арганізаваць у гэтым гандлёвым аб'яднаньні закупачную кантору на гаспадарчым разьліку.

Закупачная кантора, пры дапамозе гандлёвых прадстаўніцтв альбо агентаў праводзіць закупкі плянавых і ўнеплянавых тавараў патрэбных сыстэме.

Тавары і прадукты, якія пакупаюцца у парадку цэнтралізаванага снабжэньня, дагавароў з прамысловасьцю і аб'яднаньнямі Цэнтрасаюзу—не праходзяць праз закупачныя канторы.

У сфэру работы гэтага аб'яднаньня не ўваходзяць культтавары (БАКТ) і гаспадарчыя тавары, якімі гандлюе гаспадарча мэблёвае аб'яднаньне. Аднак, закупачная кантора пры гандлевым аб'яднаньні прам і харч таварах мае магчымасьць па спэцыяльнай дагаворанасьці з Бактам і гандлёвым аб'яднаньнем па гаспадарчым таварам, вытвараць закупкі для гэтых аб'яднаньняў асобных тавараў, якія уваходзяць у іх наменклатуру.

2. Пакласьці ў аснову работы гандлёвага аб'яднаньня па прам і харч таварах, раўна як і па астатніх 2-х аптовых аб'яднаньнях выкананьне наступных задач:

а) Арганізацыя таваразвароту сыстэмы па ўваходзячай у сфэру работы аб'яднаньня наменклатуры тавараў.

б) Складаньне гандлёвых плянаў аб'яднаньня.

в) Вызначэньне ўдзельнае вагі спажывецкай сыстэмы ў гандлі (па даннай аменклатуры) і выяўленьне рынкачных прамысловых фондаў мясцовай і саматужнай прамысловасьці.

г) Складаньне плянаў завозу па плянуемых таварах (у разрэзе каапэрацыйных арганізацый) і кантроль за выкананьнем гэтага пляну завозу.

д) Заключэньне дагавароў па плянуемых таварах, заключэньне генэральных дагавароў з прамысловасьцю і аб'яднаньнямі Цэнтрасаюзу як па тых таварах (плянуемым і неплянуемым), па якіх спажывецкія саюзы дзейнічаюць як пасрэднікі ў дагаварах аб'яднаньняў Цэнтрасаюзу з прамысловасьцю, так і па тых таварах, па яхіх Цэнтрасаюз выступае як манапольны аптавік.

е) Заключэньне дагавароў з сыстэмай.

з) Кіраўніцтва закупачнай канторай, працай упаўнаважаных і працай бюро попыту.

Кіраўніцтва міжраённымі базамі і вызначэньня шляхоў таварапрасоўваньня ўскласьці на гандлёвае аб'яднаньне па прам і харч таварах.

## IV. Аб снабжэнчаскай і збытавой рабоце.

У аснову збытавой работы аптовых гандлёвых аб'яднаньняў пакласьці наступныя прынцыпы.

1. Аптовыя аб'яднаньні пры складаньні плянаў збыту і завозу ў міжраенныя базы ня выходзяць з якіх-небудзь стала-дзейнічаючых каафіцыентаў, норм, удзельнай вагі, а кіруюцца пры вызначэньні плянаў завозу ці рэалізацыі той ці іншай партыі тавараў выключна задачай падпарадкаваньня збытавой работы выкананьню асноўных гаспадарча-палітычных задач, якія стаяць на даным адрэзку часу перад тым ці іншым раёнам.

2. Зьняцьце з плянаваньня шэрагу дэфіцытных тавараў (бялізна, паасобныя віды гатовых вырабаў, абутак) зусім не адзначае адмаўленьне ад цьвёрдага рэгуляваньня завозу гэтых тавараў і гэта група тавараў, як і плянуемая, павінны быць завезены з улікам асноўных гаспадарча-палітычных заданьняў па загатоўках, вясеньняга севу, асноўным вучасткам народнае гаспадаркі.

3. Аптовыя аб'яднаньні заключаюць з сыстэмай квартальныя дагавары на продаж тавараў плянуемых і тых тавараў (плянуемых і не плянуемых), па якіх аб'яднаньне мае прамыя дагавары з аб'яднаньнямі Цэнтрасаюзу.

У адносінах той масы тавараў, якія аптовыя аб'яднаньні разьлічваюць уключыць у свой таваразварот, але ня маюць па ім цьвёрдых дагавароў з пастаўшчыкамі, дагавораў з сыстэмай на продаж гэтых тавараў аб'яднаньні не заключаюць.

4. Закупачная кантора і міжраённыя базы прадаюць закупленыя імі тавары і прадукты (якія ня праходзяць па дагаворах, залючаным гандлёвымі аб'яднаньнямі) сыстэме па свайму погляду, у адпаведнасьці з прынцыпамі савецкага гандлю з тым аднак, што ў адносінах паасобных груп найбольш дэфэцытных тавараў, атрыманых звыш дагавароў, закупачная кантора і міжраённыя базы дзейнічаюць толькі па ўказаньнях гандлёвага аб'яднаньня.

## V. Правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Арганізаваць дадаткова да існуючых 4-х аптовых баз яшчэ 7 міжраённых баз у Полацку, Лепелі, Клімавічах, Магілеве, Слуцку, Мазыры і Бабруйску.

2. Устанавіць, што ў сувязі з арганізацыяй новых 7-мі баз маецца поўная магчымасьць рэарганізаваць опт у 23 райсаюзах і прымацаваць непасрэдна да баз 392 сельпо.

3. Незалежна ад таго, што функцыі па гандлёвым абслугоўваньні сельпо перадаюцца міжраённым базам БКС, паказаныя райспажсаюзы, дзе рэарганізуецца опт, нясуць поўную адказнасьць за становішча работы сваей сыстэмы па ўсіх галінах і па гандлёвай дзейнасьці ставяць сабе, як асноўную задачу—разгортваньне па-заплянавых закупак і максымальную мабілізацыю мясцовых таварных і харчавых рэсурсаў.

4. Зацьвердзіць прыкладзеныя пры гэтым Палажэньне аб міжраённых базах, інструкцыю аб парадку прасоўваньні тавараў, інструкцыю аб працы і штату РСС, дзе рэарганізуецца опт, штаты міжраённых баз.

5. Дырэктарам аптовага харч і промтаварнага аб'яднаньня прызначыць т. **Фальковіча**, намесьнікамі яго т. т. **Альперовіча** і **Коціна**. Дырэктарам закупачнай канторы прызначыць т. **Гурвіча**, намесьнікам яго т. **Сохара**.

Даручыць т. Фальковічу і Альперовічу канчаткова вызначыць штаты аб'яднаньня і расстаноўку сіл у апараце і прадставіць ня зацьверджаньне Прэзыдыуму.

VI. 1. Улічываючы ноабходнасьць апэрацыйнага кіраўніцтва па арганізацыі гандлю ва ўсей сыстэме ў першаю чаргу разгортваньня раздробнага гандлю, мабілізацыі дадатковых рэсурсаў, арганізацыю кантроля за выкананьнем торгфінпляну, лічыць неабходным:

а) арганізаваць замест сэктару снабжэньня пры Прэзыдыуме—Сэктар гандлю.

Пры сэктары гандлю арганізаваць наступныя групы:

**Група кантынгэнтаў і фондаў.** У задачу гэтай групы ўваходзіць вызначэньне кантынгэнтаў (па паасобных каапэрацыйных арганізацыях), асоб узятых на цэнтралізаванае снабжэньне, норм цэнтралізаванага снабжэньня, праверка кантынгэнтаў на мясцох і ўстанаўленьне аснаўных кантрольных лічбаў па мэтавых прызначэньнях у цэнтралізаваным пляне. Зьвесткі аб усім пляне цэнтралізаванага снабжэньня—перадаць аптовым аб'яднаньням.

**2. Група мабілізацыі дадатковых таварных і прадуктовых рэсурсаў.**

У задачу гэтай групы уваходзіць:

а) Вызначэньне разьмераў заданьня ўсім звеньням сыстэмы па мабілізацыі дадатковых рэсурсаў.

б) Арганізацыя складаньня пляну мабілізацыі дадатковых рэсурсаў.

в) Вырашэньне ўсіх арганізацыйных пытаньняў, зьвязаных з вядзеньнем работы па загатоўках.

г) Вучот усей самадзейнай работы сыстэмай.

**3. Група кантролю за выкананьнем пляну таваразвароту і вучота снабжэньня.**

У задачу гэтай групы уваходзіць вучот выкананьня асобнымі зьвеньнямі сыстэмы гандальфінпляну, кантроль за рэшткамі тавараў, арганізацыя кан'юктуры па становішчу снабжэньня вядучых прадпрыемстваў і асноўных вучасткаў народнае гаспадаркі.

**4. Сэкцыя кантролю па абслугоўваньні рабочых прамысловасьці будматар'ялаў** (кантроль за давядзеньне гандлёвых і прадуктовых фондаў ЗРК гэтай прамысловасьці, дапамога ЗРК у разгортваньні самадзейнасьці і г. д.).

Арганізаваць пры Аргаддзеле групу арганізацыі раздробнага гандлю. У задачу сэктару арганізацыі раздробнага гандлю ўваходзіць:

а) Арганізацыя кантролю за ажыцьцяўленьнем плянаў разгортваньні сеткі.

б) Распрацоўка мерапрыемстваў па наладжваньні культурнага гандлю.

в) Рацыяналізацыя гандлю, мерапрыемствы па забесьпячэньні сеткі інвэнтаром.

г) Прапрацоўка пытаньняў капітальнага будаўніцтва раздробнай сеткі савецкіх базароў і г. д.

VII. Надаючы асабліваe значэньне пытаньню наладжваньня вучоту адгрузкі таварных мас, якія

Друк. Кір

# ІНСТРУКЦЫЯ

## аб парадку рэарганізацыі опта 23 РСС і далейшым напрамку працы гэтых РСС

1. Незалежна ад таго, што функцыі па гандлёвым абслугоўваньні сельпо перадаюцца міжраённым базам, паказаныя РСС, дзе арганізуецца опт, нясуць поўную адказнасьць за становішча работы сваей сыстэмы па ўсіх галінах і ў гандлёвай дзейнасьці ставяць сабе як асноўную задачу—разгортваньне па-заплянавых закупак і мабілізацыю мясцовых таварных і харчовых рэсурсаў.



2. Кіраўніцтва працай сельпо ў раёнах, дзе рэарганізуецца опт, ажыцьцяўляецца РСС. РСС арганізоўваюць свой сталы нагляд за дзейнасьцю сыстэмы ў адносіне выкананьня дырэктыў па разгортваньні савецкага гандлю, прасоўваньню тавараў і абслугоўваньня рабоча-калгаснага спажыўца. РСС плянуюць працу сельпо па ўсіх галінах, вядзе вучот выкананьня плянаў.

3. Рэалізацыя пляніруемых тавараў паміж сельпо вытвараецца базай на падставе разнарадак і плянаў рэалізацыі РСС у разрэзах асобных сельпо.

4. Утрыманьне апарату РСС, дзе рэарганізуецца опт (акрамя апарату Райзага) вытвараецца за рахунак даходаў ад няплянавых закупах адлічэньняў ад сельпо ў разьмеры ад 1 проц. да 1,5 проц. ад звароту сельпо. Райспажыўсаюзам павінен быць складзен цьвёрды каштарыс выдаткаў і дэфэрэнцыраван разьмер налічэньня для асобных сельпо выходзячы з іх звароту.

5. У адпаведнасьці з гэтымі задачамі ўносіцца зьмена у структуру Райсаюзу, дзе рэарганізуецца опт—замест Сэктару Снабжэньня арганізоўваецца гандлёвае бюро ў функцыю якога ўваходзіць разгортваньне пазаплянавых закупак і арганізацыя савецкага гандлю з сельпо. (Тавараздварот, астатак, пабудова асартымэнту, разгортваньне работы з дастатковымі таварамі і г. д.).

# ІНСТРУКЦЫЯ

## аб парадку прасоўваньня тавараў

1. Прынцыпы арганізацыі гандлёвага абслугоўваньня праз міжраённыя базы.

1. Непасрэдна да гандлёвага абслугоўваньня міжраённых баз прымацоўваюцца 23 раёна з колькасьцю 392 сельпо і ў РСС гэтых раёнаў рэарганізуецца опт.

2. Астатнія 52 РСС прымацоўваюцца да баз для атрыманьня асобных тавараў і снабжэньне сельпо праводзіцца непасрэдна гэтымі РСС.

3. Сельпо, якія застаюцца на абслугоўваньні РСС, у адносіне непляніруемых тавараў могуць вытвараць закупку непасрэдна на базах, ня гледзячы на то, што яны як арганізацыі не прымацованы да баз.

### 2. Прасоўваньне асобных тавараў павінна будавацца наступным чынам:

| Назва тавараў | Для прымацованых сельпо. | Для прымацованых РСС. |
|---|---|---|
| Соль . . . . | У асноўным непасрэдна ў сельпо шляхам куставаньня сельпо . | Транзітам |
| Газа . , . . | У пунктах нафтабакаў | „ |
| Цукер, . . . | На базу . . . . . | На базу |
| Рыба . . . . | На „ . . . . . | На „ |
| Кандытэрскія вырабы . . . | На „ . . . . . | Транзітам. |
| Мыла . . . . | На „ . . . . . | На базу (транз. мясц. выр.). |
| Запалкі . . . | На „ . . . . . | Транзітам. |
| Гаспадарчыя тавары . | На „ . . . . . | На базу |
| Культтавары . | На „ . . . . . | На „ |
| Галянтарэя . . | На „ . . . . . | На „ |
| Парфюмэрыя | На „ . . . . . | Транз. і на базу. |

| Назва тавараў | Для прымацованых сельпо | Для прымацованых РСС |
|---|---|---|
| Абутак . . . | На базу. . . . . . | Транзітам. |
| Ніткі . . . . | На „ . . . . . | На базу |
| Гатовае адзеньне . . . . . | На „ . . . . . | Транзітам. |
| Тканіны . . . | На „ . . . . . | Транз. і на ба |
| Хлебнае віно . | На базу і транзітам для тых сельпо, якія знаходзяцца ў блізкай адлегласьці ад складаў Цэнтрасьпірту . . . | Транзітам. |

4. У адносіне хлеба, крупы і мяса, якія атрымліваюцца нарадах на месцы, нарады для сельпо РСС, дзе рэарганізуе опт даюцца гэтым РСС, якія ўстанаўліваюць разьмеры асобных сельпо і даюць адпаведным арганізацыям для рэ зацыі па асобных сельпо.

5. Тыя сельпо, якія непасрэдна прымацоўваюцца да вытвараюць непасрэдна расцэнку тавараў і ўстанаўліва прадажныя цэны ў адпаведнасьці з савецкай палітыкай і парадак і прынцыпы цэнаутварэньня даюцца бюро цэн Б



Рэдактар С. АНДРОСЕНК

Выданьне БелТА

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАСА БССР зак. 614 Упаўнав. Галоўлітбела Б. 312 Тыраж—2000